ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

ЛЮТЫ, 2012

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Маці асуджанага за тэракт звярнулася ў Канстытуцыйны суд

СТАР. 2

Леанід Судаленка: беларусы застаюцца безабаронныя перад уладай

СТАР. 4



# «Алесь казаў: „Вясну“ не спыніць. Я тое самае паўтару»

*Прысуд Алесю Бяляцкаму пакінулі ў сіле, нягледзячы на поўную кампенсацыю нібыта нанесенага дзяржаве ўрону.*

ВЯСНА праваабарончы цэнтр

- Зараз будзе рыхтавацца наглядная скарга старшыні Менскага гарадзкога суду, у Вярхоўны суд. Канечне, мы будзем выкарыстоўваць усе магчымыя мэханізмы і ня толькі нацыянальныя, але і наднацыянальныя. У нас ня так шмат такіх магчымасьцяў. Гэта толькі камітэт па правах чалавека ААН, мы туды абавязкова будзем зьвяртацца са скаргай па справе Алеся Бяляцкага, - кажа **сябра Рады ПЦ "Вясна" Таццяна Равяка.**

*- Сёньняшні прысуд азначае, што ў Бяляцкага канфіскуюць усю маёмасьць, а гэта, у сваю чаргу, азначае, што яго сям'ю выкідаюць з двухпакаёвай кватэры на вуліцу. Раней праваабаронцы ня раз заяўлялі, што паводле заканадаўства кватэру, у якой жыве сям'я, ня могуць канфіскоўваць. Вы сабралі 757 мільёнаў рублёў і сплацілі іх дзяржаве як пагашэньне шкоды, якую нібыта нанёс Бяляцкі дзяржаве. Можа лепш было купіць сям'і Бяляцкага кватэру на гэтыя грошы? І ці можна было гэта зрабіць?*

- Мы ўсё ж спадзяваліся, што грошы, якія былі сабраныя і пералічаныя на рахунак Першамайскага суду, паўплываюць на рашэньне касацыйнай інстанцыі і, магчыма, на зьмякчэньне прысуду самому Алесю, а таксама на рашэньне датычнае канфіскацыі маёмасьці. Дарэчы, мы пачулі ў судзе толькі выніковую частку рашэньня. Мы ня ведаем матывіровачную частку, зь якой мы можам ацаніць, якая маёмасьць падлягае канфіс-кацыі. Немагчыма выселіць сям'ю на сьнег, на холад, на вуліцу згодна з нашым заканадаўствам. Мы спадзяемся, што ў гэтым пляне беларуская Фэміда будзе гуманнай і справядлівай, што сям'я застанецца ў сваёй кватэры.
Таксама падлягае канфіскацыі лецішча Бяляцкага і аўтамабіль ягонага сына, бо сам Бяляцкі не водзіць машыну, проста машына была на яго афармленая. Мы чакаем, каб даведацца, што ўсё ж падлягае канфіскацыі. Хутчэй за ўсё гэта будзе лецішча, аўтамабіль і офіс «Вясны». Вельмі спадзяемся, што сям'я не застанецца без жытла. Гэтыя грошы, якія сабралі людзі, магчыма, будуць уплываць на магчымасьць умоўна-датэрміно-вага вызваленьня, на некаторыя аспэкты ягонага знаходжаньня за кратамі. Таму казаць, што яны зусім ніяк не спрацавалі, нельга.

*- Тацяна, вы сказалі, што атрымліваеце лісты ад Алеся Бяляцкага. Як ён трымаецца, як яго дух?*

- У Алеся вельмі моцны дух. Быў пэрыяд, калі ён даведаўся пра сьмерць бацькі, гэта быў час роспачы і час нейкага адчаю, які зноў зьмяніўся на моцную падтрымку, якую ён нам аказвае з-за кратаў. Канечне, часам і ягоныя жарты у лістах можна пачытаць, і філязофскае падсумаваньне таго, што адбываецца зь ім, з намі, з нашай краінай, са сьветам і чалавечым жыцьцём.

У апошнім лісьце ён піша, што не спадзяецца зусім на касацыйную скаргу і на нейкія магчымыя зьмены. І ён плянуе, што 5-10 лютага, магчыма, трапіць на зону. Што вельмі хочацца яму гэта далячынь паглядзець, бо 5 месяцаў то сьцены хаты, то дворык прагулачны, і ніякай пэрспэктывы.

Працяг на 2 стар.

## "Вясна": паўгода без Бяляцкага

Паўгода Праваабарончы цэнтр "Вясна" працуе без свайго кіраўніка Алеся Бяляцкага. Праваабаронца быў затрыманы 4 жніўня 2011 года, а 24 лістапада асуджаны да 4,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.
Ізаляцыя старшыні праваабарончай арганізацыі, следчыя дзеянні, допыты ў якасці сведак сяброў арганізацыі, урэшце і сам суд, безумоўна, дадалі клопатаў і трывог для супрацоўнікаў цэнтру. Аднак на жыццядзейнасці "Вясны" гэта істотным чынам не адбілася, паколькі сябры арганізацыі не паддаліся разгубленасці і годна працягвалі сваю дзейнасць.

Працяг на 3 стар.

## Таццяна Равяка: «Алесь казаў: „Вясну“ не спыніць. Я тое самае паўтару»

**Пачатак на 1 стар.** - Я думаю, што тут ня толькі пэрспэктыва погляду ў далячынь, але пэрспэктывы станоўчага вырашэньня ягонай справы. На жаль, апраўдаліся гэтыя прадбачаньні Алеся, і ён зьбіраецца на зону, але піша пра гэта даволі спакойна.

*- Калі маёмасьць канфіскуюць, значыць праваабарончы цэнтар «Вясна» страціць офіс. Як вы будзеце дзейнічаць далей? Калі чакаеце судовых выканаўцаў?*

- Так, мы, канечне, да апошняга спадзяваліся, што гэтага не адбудзецца. Сёньня мы пачынаем зьбіраць рэчы, тыя, якія мы ў першую чаргу хацелі б захаваць. Гэта і нашая тэхніка, і нашы архівы, магчыма, найбольш патрэбная нам мэбля, якая дазволіць нам у далейшым працягнуць працу на новым месцы. Заўтра будзем паціху усё вывозіць. Пакуль ня прыйдуць у гэтую кватэру судовыя выканаўцы і ня скажуць, што мы павінны пакінуць гэтае памяшканьне, мы будзем спрабаваць працягваць працаваць тут.
Думаю, у нас будуць часовыя цяжкасьці, зьвязаныя з адсутнасьцю офісу, але я думаю, што мы вырашым гэтую праблему. Пасьля арышту Алеся Бяляцкага зь «Вясны» не сышоў ніводзін супрацоўнік, і для нас гэта вельмі важна, гэта паказьнік таго, што арганізацыя створаная сапраўды на глебе перакананасьці ў неабходнасьці нашай працы, на глебе і на прынцыпах узаемнага даверу і ўзаемнай адказнасьці адзін за аднаго і за нашага калегу, які зараз знаходзіцца за кратамі. У нас вельмі няпростыя часы. Алесь казаў: «Вясну» не спыніць. Я тое ж самае паўтару: «Вясну» не спыніць.

Сяргей Абламейка



## Саннікаў: «Потым пачаліся катаванні»

Ірына Халіп склікала экстранную прэс-канферэнцыю на наступны дзень пасля спаткання з мужам.
Тры месяцы да гэтага пра Андрэя Саннікава не было ніякай інфармацыі. Адвакатаў і сваякоў да яго не дапускалі, лісты не даходзілі. А калі дапусцілі, то высветлілася, што Саннікаў выглядае так, нібыта прайшоў праз сталінскія лагеры. І што ён яшчэ ў снежні падпісаў прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі.
Ірына лічыць, што прашэнне з Андрэя "выбілі" сапраўднымі катаваннямі. Яна сцвярджае, што на такі крок ён мог пайсці з-за пагроз сям'і. "Андрэй разумее, у якім цяжкім стане я знаходжуся. Андрэй гатовы памерці сам, але ён не дазволіць прычыніць шкоду нам з Данікам", - сказала жонка палітвязня. Самыя цяжкія пакуты гэта пагроза жыццю тваіх блізкіх. А яшчэ месяцы ў "адзіночцы", без лістоў, без сустрэч з адвакатам, без якіх-небудзь вестак з волі, неаднаразовыя, па некалькі тыдняў, "транзіты" з калоніі ў калонію, з хворымі на сухоты, з правакатарамі…
Больш за ўсё Ірыну ўсхвалявала тое, што падчас прэс-канферэнцыі 23 снежня Аляксандр Лукашэнка рабіў выгляд, што не ведае пра прашэнне Саннікава. У той жа час, па яе звестках, Саннікаў вымушаны быў падпісаць прашэнне яшчэ ў канцы лістапада. "Магчыма, Лукашэнку зусім не былі патрэбны прашэнні аб памілаванні. Гэта адмазка для журналістаў, якія яму задаюць пытанні. У яго іншая задача", - гаворыць Ірына. Яна распавяла, што за тры апошнія месяцы Андрэй так змяніўся, што "стаў падобны на чалавека, за якім дзесяць гадоў сталінскіх лагераў". "Андрэй не мог распавесці пра тое, што з ім адбылося за тры апошнія месяцы. Ён толькі змог перадаць: "Мая адсідка скончылася яшчэ ў верасні. Потым пачаліся катаванні", - сказала Ірына Халіп.

*Любоў Кавалёва падала заяву з тым, каб Канстытуцыйны суд даў заключэнне, што беларускае крымінальна-выканаўчае заканадаўства не адпавядае Канстытуцыі і міжнародным прававым нормам.*



## Маці асуджанага за тэракт Уладзіслава Кавалёва звярнулася ў Канстытуцыйны суд

Любоў Кавалёва ад імя сына звярталася ў Камітэт ААН па правах чалавека і непакоіцца, што смяротны прысуд абвінавачаным за тэракт Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву можа быць прыведзены ў выкананне раней, чым сваё меркаванне выкажа гэтая міжнародная арганізацыя. Беларускае заканадаўства не прадугледжвае тэрмінаў на тое, каб чакаць такой рэакцыі.
Таксама 1 лютага Любоў Кавалёва падала скаргу ў Генеральную пракуратуру Беларусі наконт знікнення ў СІЗА КДБ ужо двух даверанасцяў, падрыхтаваных сынам і яго адвакатам, каб яна магла ад імя Уладзіслава Кавалёва звяртацца ў міжнародныя інстанцыі. Першая даверанасць была падрыхтавана ў снежні 2011 года, другая - у студзені 2012 года, іх перадалі на подпіс да кіраўніцтва СІЗА КДБ, і далейшы лёс гэтых дакументаў невядомы.

# “Вясна”: паўгода без Бяляцкага

Пачатак на 1 стар.

*Як працуе “Вясна” сёння без свайго нязменнага кіраўніка і натхняльніка Алеся Бяляцкага? Якімі думкамі і спадзяваннямі жывуць “вясноўцы”? Пра гэта сёння распавядаюць сябры праваабарончага цэнтру*.

**Намеснік Праваабарончага цэнтру “Вясна” Валянцін Стэфановіч:**

З аднаго боку, наша дзейнасць за гэты час змянілася, з іншага не змянілася. “Вясна”, як і раней, працягвае актыўна працаваць на міжнародным узроўні з разнастайнымі структурамі ААН (Камітэтам па правах чалавека, Камітэтам па катаваннях), структурамі Еўразвязу і Рады Еўропы, прартнёрскімі праваабарончымі арганізацыямі. А змянілася таму, што да розных звыклых для нас накірункаў дзейнасці і тэмаў далучылася пытанне Алеся Бяляцкага. Мы шмат увагі надзялялі менавіта гэтаму пытанню. У нас быў шэраг сур'ёзных сустрэчаў на розных узроўнях. Напрыклад, падчас апошняй сустрэчы з Еўракамісарам Фюле мы 40 хвілінаў размаўлялі пра сітуацыю ў Беларусі наогул і сітуацыю з Алесем Бяляцкім, у прыватнасці.
Лічу, што інтэнсіўнасць нашай працы ніколькі не зменшылася, проста дадаўся яшчэ адзін аспект справа Алеся Бяляцкага. Хаця, безумоўна, мы заўсёды ў звязку з гэтай крымінальнай справай кажам агулам пра балючую праблему наяўнасці палітвязняў у Беларусі.

**Сябра Рады ПЦ “Вясна” Тацяна Рэвяка:**

Для мяне вельмі важна, што пасля арышту Алеся Бяляцкага. "Вясна" працягвае сваю працу ў поўным складзе ні адзін з “вясноўцаў” не сышоў з арганізацыі і не спыніў сваёй праваабарончай актыўнасці. Гэта датычыць усіх накірункаў дзейнасці і ўсіх рэгіёнаў, дзе мы прысутнічаем. Думаю, што менавіта гэта і меў на ўвазе Алесь, калі ў судзе казаў: "Жыве Вясна!" і чуў у адказ "Жыве!".
Арышт Алеся яшчэ больш скансалідаваў “вясноўцаў” і паказаў у чарговы раз, што ”Вясна” арганізацыя аднадумцаў, якія свядома працуюць у галіне правоў чалавека, разумеючы ўсе пагрозы і выклікі сённяшняга часу. Я вельмі ганаруся сваімі калегамі і тым, што належу да гэтай супольнасці.
Асабіста для мяне арышт Алеся быў моцным ударам, але не быў нечаканым. Зараз мы раздзелены кратамі і турэмнымі мурамі, але мы застаемся калегамі і сябрамі, сувязь наша зараз толькі праз ліставанне. Канешне, цяжка без Алеся, перажываю за яго, за ягонае здароўе, і адначасова захапляюся ягонай мужнасцю і сілай духа.

**Супрацоўніца ПЦ “Вясна” Алена Лапцёнак:**

Калі гаварыць менавіта пра мой эмацыйны стан, то выказаць словамі такія рэчы даволі цяжка. Мушу прызнацца, што я да апошняга моманту не верыла ў саму магчымасць як працяглага арышту Алеся, так і вынясення яму такога жорсткага прысуду. І не таму, што веру ў справядлівасць ці не даацэньвала нашыя ўлады, проста, напэўна, так прасцей не думаць пра кепскае і не чакаць яго. Тым больш, што столькі гадоў “Вясна” існавала без рэгістрацыі і, здавалася б, усе пагрозы яе абыходзілі: яна толькі дужала і набывала ўсё большы міжнародны аўтарытэт. Нават калі ў папярэднія гады я сама запісвала з Алесем інтэрв'ю і задавала пытанне кшталту “а ці не баіцеся вы пераследу?”, прадбачыла адказ, што выбар зроблены і “мы за ценой не постоим”, хоць тады гэта можа і гучала крыху пафасна.
Вось і зараз мая свядомасць адмаўляецца ўспрымаць падзеі апошніх паўгода, тым больш, што ўсё, акрамя адсутнасці нашага кіраўніка, засталося фактычна нязменным: і нашыя справы, і сябры. У мяне такое ўражанне, нібыта Алесь проста з'ехаў у камандыроўку і хутка вернецца, а лісты, якія ён піша з-за кратаў, прасякнутыя аптымізмам і цікавымі ўспамінамі пра наша нядаўняе мінулае. Калі знаходжу ў паштовай скрынцы чарговы ліст, падымаецца настрой: прачытаеш, напішаш адказ вось, нібыта і пагаварылі...

**spring96.org**



## Зьміцер Бандарэнка напісаў прашэньне аб памілаваньні

Пра гэта стала вядома 4 лютага, калі ён патэлефанаваў з калёніі сваёй жонцы Вользе. Палітвязень сказаў, што напісаў прашэньне 1 лютага. Гэту інфармацыю пацьвердзіў паплечнік Зьмітра Банадарэнкі Аляксандар Атрошчанкаў.

Зьміцер Бандарэнка мае вельмі сур'ёзныя праблемы са здароўем. З 30 студзеня ў дачыненьні да яго, хаця Бандарэнка перанёс цяжкую апэрацыю на хрыбетніку, уступілі ў дзеяньне яшчэ больш жорсткія ўмовы ўтрыманьня. Яму забаронена карыстацца мыліцай, не дазволены артапэдычны абутак, які перадала жонка і яшчэ шмат чаго. 2 лютага Бандарэнку вярнулі мыліцу і артапэдычны абутак, дазволілі не хадзіць у шэрагу.
7 красавіка даверaную асобу кандыдата на прэзыдэнта Андрэя Саньнікава, каардынатара «Эўрапейскай Беларусі» Зьмітра Бандарэнку асудзілі на 2 гады калёніі агульнага рэжыму.

У палітыка пасьля арышту дыягнаставалі некалькі грыжаў дыскаў хрыбетніка і ўшчамленьне сьпіннамазгавых нэрваў. 25 ліпеня яго даставілі з Рэспубліканскай турэмнай бальніцы на вуліцы Валадарскага ў 5-ю бальніцу, дзе на наступны дзень зрабілі апэрацыю.

**svaboda.org**

# Леанід Судаленка: беларусы застаюцца безабаронныя перад уладай



*Старшыня Канстытуцыйнага Суда Беларусі Пётр Міклашэвіч на днях прадэманстраваў пазіцыю ўлады аб праве грамадзян на доступ да канстытуцыйнага правасуддзя.*
- Сёння такой неабходнасці няма. У нас на заканадаўчым узроўні прадугледжаны ускосны доступ. Гэта значыць грамадзянін мае права звярнуцца з ініцыятывай аб праверцы канстытуцыйнасці таго ці іншага нарматыўнага прававога акта да ўпаўнаважаных суб'ектаў. Пры наяўнасці дастатковых падстаў апошнія могуць звярнуцца ў КС, - заявіў Міклашэвіч агенцтву БЕЛТА.

**Гомельскі праваабаронца, юрыст, старшыня гарадскога аддзялення РГА "Прававая ініцыятыва" Леанід Судаленка** з кіраўніком КС не згодны і заяўляе, што пытанне надзялення грамадзян правам прамога звароту ў КС не проста наспела, яно даўно ўжо з'яўляецца «крыклівым».

*- Адна справа, калі правы чалавека парушаюцца ў краінах, дзе кіруюць законы і зусім іншае як у нас, дзе кіруюць людзі. Грамадзянам любой краіны, у тым ліку нашых блізкіх суседзяў, можа і не абавязкова звяртацца ў Канстытуцыйны Суд, яны могуць напрамую звярнуцца ў Еўрапейскі Суд па правах чалавека, які абавяжа краіну аднавіць парушанае права радавога грамадзяніна.*

*- У нашай практыцы маецца досыць выпадкаў, калі мы звярталіся да ўпаўнаважаных суб'ектаў, аб якіх кажа кіраўнік КС. Калі гаварыць у жарт, лепш пісаць у Спортлато, там, хоць шанцы нейкія існуюць... Чыноўнікі ад «упаўнаважаных суб'ектаў» ніколі не будуць шукаць «дастатковыя падставы» аб якіх кажа Міклашэвіч, іх гэтая тэма не цікавіць. Нашы чыноўнікі добра засвоілі тэрмін - любая ініцыятыва каральная!*

Як адзначае юрыст, Беларусь да гэтага часу застаецца адзінай краінай на еўрапейскім кантыненце, грамадзяне якой пазбаўлены права на зварот у Страсбург. Беларусы са сваімі правамі застаюцца ў замкнёнай прасторы, г.зн. сам-насам са сваёй уладай. Скаргі ў Камітэт ААН па правах чалавека таксама не прыводзяць да аднаўлення парушаных правоў - чыноўнікі ад улады іх папросту ігнаруюць.

Прыводзячы ў прыклад бліжэйшага саюзніка - Расію, грамадзяне якой мае права на канстытуцыйную скаргу лідэр гарадскога аддзялення РГА "Прававая ініцыятыва» не згаджаецца з кіраўніком КС і пра тое, што пытанне аб канстытуцыйнай скарзе патрабуе дадатковай прапрацоўкі, да якога Беларусь, магчыма, прыйдзе ў перспектыве .

*- Базавае заканадаўства постсавецкіх краін у прынцыпе з'яўляецца ідэнтычным, таму тут не трэба «вынаходзіць ровар», можна проста ўзяць за аснову адпаведнае заканадаўства Расіі і дапрацаваць яго з улікам нацыянальных патрабаванняў. Я прыхільнік таго, што б правы чалавека выконваліся сёння, а не ў аддаленай перспектыве, - падвёў рысу эксперт.*

Нагадаем, становішча з правамі чалавека ў Беларусі асуджаюць не толькі ЗША, але і кіраўніцтва Савета Еўропы, праваабарончай арганізацыі «Міжнародная амністыя», айчынныя праваабаронцы..

**gomelspring.org**

## Гомельскія праваабаронцы склалі дапаможнік па пытаннях прававых калізій у адміністрацыйным заканадаўстве

Галоўная ідэя выдання, якую праваабаронцы даносяць да грамадзян: «Агульным правілам з'яўляецца знаходжанне чалавека на свабодзе, утрыманне пад вартай павінна лічыцца выключэннем з гэтага правіла». **Праваабаронцы Леанід Судаленка і Васіль Палякоў** выкладаюць у дапаможніку дзеючыя міжнародна-прававыя стандарты ў адносінах права кожнага на свабоду і недатыкальнасць асобы, механізмы па абароне правоў, параўноўваюць міжнароднае і нацыянальнае заканадаўства.

«Склалася практыка, што нават пасля таго, як супрацоўнікі міліцыі ўстановяць асобу затрыманага, пераканаюцца ў тым, што грамадзянін мае сталае месца жыхарства, складуць пратакол аб правапарушэнні, тым не менш, затрыманага змяшчаюць да суду ў ІЧУ. Асабліва актыўна такія меры прымяняюцца да грамадскіх і палітычных актывістаў, затрыманых па падазрэнні ў здзяйсненні таго ці іншага правапарушэння, за якое ў якасці адказнасці прадугледжаны адміністрацыйны арышт. У выніку, складаецца сітуацыя, калі напрыклад, той ці іншай актывіст, што адседзеў да трох сутак у ізалятары толькі па суб'ектыўным меркаванні супрацоўніка міліцыі, пасля ў судзе ў якасці спагнання атрымлівае штраф, а вось пытанне яго фактычнага пазасудовага арышту застаецца нявырашаным», - тлумачыць Леанід Судаленка.

Яго калега Васіль Палякоў дадае, што пазасудовы арышт альбо адміністрацыйнае затрыманне заўсёды павінны з'яўляцца разумнымі і неабходнымі ў канкрэтных абставінах, і акрамя таго з'яўляцца сумяшчальнымі па адносінах к павазе права кожнага на свабоду і асабістую недатыкальнасць, на прэзумпцыю невінаватасці. Адміністрацыйнае затрыманне можа лічыцца абгрунтаваным толькі тады, калі адпаведная асоба ўяўляе сабой яўную і сур'ёзную пагрозу грамадству, ступень якой немагчыма знізіць якім-небудзь іншым чынам.

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.